РУХ за свабоду

Бюлетэнь ПАГА «Рух «За Свабоду» Выпуск №1 студзень 2016 году



# Мілінкевіч: Трэба хадзіць на выбары

**У палітычных колах і прэсе шмат абмяркоўваецца, што старшыня Руху «За Свабоду» Аляксандр Мілінкевіч адышоў ад кіравання арганізацыяй і наогул пакінуў палітыку. У інтэрв'ю "Еўрарадые" ен заявіў, што гэтак не так. Хаця некаторымі паўнамоцтвамі з маладымі намеснікамі падзяліўся.**



Мілінкевіч кажа, што ў Руху выконвае свае функцыі – "днямі ездзілі ў Баранавічы, абіралі новага рэгіянальнага старшыню". Гэта адбылося ў студзені: неабходнасць перавыбараў старшыні аддзялення паўстала пасля раптоўнай смерці гісторыка, вядомага мясцовага грамадскага актывіста Віктара Сырыцы.

Але праўда: палітычныя функцыі ў Руху ўжо перадаў больш маладым — Алесю Лагвінцу і Юрасю Губарэвічу.

У палітыцы павінная быць змена пакаленняў. Гэта не азначае, што я іду на пенсію, але я ніколі не даваў абяцання, што да канца дзён сваіх буду займацца палітыкай. Якой у Беларусі няма. Сам я цяпер займаюся больш адукацыйнымі і культурніцкімі праектамі. Яны таксама важныя, хоць, можа, не так цікавыя журналістам.

**- Якія канкрэтна палітычныя функцыі вы ўжо перадалі маладым?**

- Набліжаецца чарговая выбарчая кампанія — парламенцкая. І Рух падбірае кандыдатаў, якіх ён будзе падтрымліваць. Кандыдатаў мы падбіраем не па партыйнай прыналежнасці — яны могуць быць з розных партый ці беспартыйнымі. Але яны мусяць падзяляць нашы каштоўнасці: вольная Беларусь, еўрапейскі кірунак развіцця. Такіх людзей у нас некалькі дзясяткаў.

Я лічу, што на выбары трэба хадзіць меншай колькасцю, але больш якаснай. Што праўда, няма ў нас сумленнага падліку галасоў, і паўстае вечнае пытанне: «Навошта ўдзельнічаць, ці не прыніжэнне гэта — ісці на выбары, якіх няма?» Але я лічу важным дэманстраваць грамадству, што ёсць персанальная альтэрнатыва, альтэрнатыва бачання шляху развіцця. Калі ж альтэрнатыву не дэманстраваць, то людзі скажуць: «Ну і праўда — хто, калі не ён?»

Таму трэба на выбары хадзіць, але не трэба хлусіць і шчыра выбаршчыкам казаць: «Мы ўсе разумеем, што рэальнага падліку галасоў няма, выбары фальсіфікуюцца, але я прыйшоў, каб з вамі сустрэцца». І нават 5 хвілін на тэлебачанні — шанец дайсці да людзей, бо не хапае беларусам камунікацыі, не хапае веры ў сябе. Апроч таго, выбары даюць магчымасць паказаць выбаршчыкам новыя твары ў палітыцы, бо людзі стаміліся не толькі ад улады, але і ад апазіцыі.

**працяг на стар. 6-7**

# Паказаць альтэрнатыву

**Парламенцкая кампанія-2016 году чакаецца досыць цікавай, бо кіраўніцтва краіны вымушана мяняе курс, змяншаюцца рэпрэсіі, а значыць з'яўляюцца магчымасці для працы з людзьмі, заявіў першы намеснік старшыні Руху «За Свабоду» Юрась Губарэвіч на сустрэчы з актывам.**




Рух «За Свабоду» гатовы падтрымаць на выбарах 36 кандыдатаў, нагадаў Губарэвіч. Аднак, па ягоных словах, зараз ідзе ўдакладненне па асобах у сувязі з падрыхтоўкай агульнага спісу правацэнтрыстаў.

«Гэтая кампанія чакаецца досыць цікавай, бо пачынаючы з мінулага года кіраўніцтва Беларусі памяняла курс. Ужо людзей не кідаюць за краты за пратэст, намагаюцца не даваць «суткі» за несанкцыяваныя акцыі, выпусцілі ўсіх палітвязняў. Пакуль няма ніякіх падставаў, каб лічыць, што гэты курс зменіцца. А значыцца, будзе магчымая нармальная праца з людзьмі», - патлумачыў Губарэвіч.

Пры гэтым, дадаў першы намеснік старшыні Руху, «гэта ўсё адбываецца на фоне моцнага эканамічнага крызісу». «У гэтых умовах наша задача - паказаць альтэрнатыву», - падкрэсліў Губарэвіч.

Па ягоных словах, «наперадзе падзеі, якія закрануць кожнага беларуса: падвышэнне пенсійнага ўзросту, павялічэнне камунальных плацяжоў».

Дэмакратычныя кандыдаты могуць праводзіць не толькі «прапаганду альтэрнатыўнай праграмы», але і настроіцца на «атрыманне падтрымкі большасці грамадзянаў».

«У адзіночку такую працу зрабіць немагчыма, - адзначыў Юрась Губарэвіч, прапанаваўшы актыву далучыцца да падтрымкі кандыдатаў. - Каб на розных этапах кампаніі мы выглядалі моцна і пераканаўча».

Па ягоных словах, кандыдаты, якіх падтрымае Рух, будуць выкарыстоўваць напрацоўкі і «Народнай праграмы», і «Народнага рэферэндуму».

На сустрэчы чакана разгарэлася гарачая спрэчка наконт таго, ці трэба ўдзельнічаць у выбарах.

«Нам як найбольш актыўным людзям і ў грамадскай працы, і ў палітыцы нельга сядзець без справы, - лічыць Губарэвіч. - Сярод беларусаў цяпер ёсць вялікі пратэстны электарат, які стаміўся ад Лукашэнкі».

Нашая задача, дадаў ён, «калі мы ідзем на гэтыя выбары - сказаць, што альтэрнатыва палягае ў праграмах, ідэях, канкрэтных людзях».

«Улада вымушана будзе адкрываць «акно магчымасці для грамадскай дзейнасці», - лічыць старшыня Руху «За Свабоду» Аляксандр Мілінкевіч. Па ягоным меркаванні, чакаецца будзе другая хваля магчымасці стварэння грамадскіх ініцыятываў.

«Варта ці не варта ўдзельнічаць у маразме? Галоўная







ацэнка - гэта не тое, абралі ці не абралі. Галоўнае, калі ў выніку выбараў было трохі больш веры ў сябе. Таму галоўны крытэрый, калі пасля выбараў у людзей аптымізму болей, стратаў меней, тады варта ў іх прымаць удзел», - патлумачыў Мілінкевіч.

«Шанец ёсць. І прыйдзе момант, калі пачнуць ва ўладу прапускаць нармальных, адэкватных людзей, як гэта было ў Польшчы. Мы напярэдадні пераменаў. Давайце набярэмся запалу ў вачах», - заключыў Мілінкевіч.

Між тым, ініцыятыва намесніцы старшыні Руху Галіны Скараход стварыць Жаночы правацэнтрысцкі форум, падтрыманая Радай арганізацыі, можа паспрыяць актывізацыі падчас выбараў жанчын.

Па яе словах, ёсць надзея ў рамках Жаночага правацэнтрысцкага форуму «на паглыбленую супрацу ў межах кааліцыі і шырокае супрацоўніцтва з левымі партыямі і рухамі».

«На будучых парламенцкіх выбарах Рух „За Свабоду“ можа ў тым ліку прапанаваць працу з жанчынамі-выбаршчыцамі ў падтрымку кандыдатаў-жанчынаў у межах кампаніі „Жанчыны за перамены“», — лічыць намесніца старшыні Руху.



«Гендэрная роўнасць — адна з базавых чалавечых каштоўнасцяў, якая ёсць індыкатарам гарманічнага развіцця грамадства. У развітых дэмакратычных краінах створаныя роўныя магчымасці для мужчынаў і жанчынаў удзельнічаць у палітычным жыцці і справядлівыя ўмовы для адкрытага суперніцтва», — сказана ў звароце да правацэнтрысцкіх партыяў.

# Ад пятай калоны” - да “зялёных чалавечкаў”

**Усе дзеянні для абароны незалежнасці Беларусі трэба вітаць, але беларускія ўлады павінны быць у гэтым паслядоўнымі. Так першы намеснік старшыні Руху «За Свабоду» Юрась Губарэвіч пракаментаваў заявы Аляксандра Лукашэнкі ад 22 студзеня на паседжанні Рады бяспекі.**

На ім была разгледжаная новая Ваенная дактрына Беларусі. «Мы можам публічна пацвердзіць нашую міралюбівую палітыку і адсутнасць варожасці да іншых дзяржаваў. Разам з тым, заявіць пра рашучасць у адстойванні сваіх нацыянальных інтарэсаў. У тым ліку, калі спатрэбіцца, з выкарыстаннем усё ваеннай арганізацыі дзяржавы», — заявіў ён.

«Як у той показцы: пакуль не загрыміць, мужык не перахрысціцца», — пракаментаваў сайту заяву Лукашэнкі першы намеснік старшыні Руху «За Свабоду» Юрась Губарэвіч. Па ягоных словах, тое, што даўно казалі патрыёты — неабходнасць клапаціцца пра абарону незалежнасці краіны — да ўладаў дайшло толькі зараз.

«Трэба вітаць любыя крокі, накіраваныя на абарону суверэнітэту. Але ўладам неабходна быць паслядоўнымі ў сваіх дзеяннях. Мала казаць пра знешнія выклікі, ёсць небяспека прыходу рускага свету ўнутры краіны», — адзначыў першы намеснік старшыні Руху.

За гэтыя 20 год бязглуздай палітыкі, дадаў ён, «пусціла карані і ўмацавалася расійская пятая калона, якая ў любы момант можа пераўтварыцца у „зялёных чалавечкаў“, і іх не трэба будзе перакідваць звонку».

«Улада павінна абмежаваць агрэсіўную расійскую прапаганду, забяспечыць рост нацыянальнай свядомасці, у школах павінна весціся выкладанне на беларускай мове. Дзеці павінны мець магчымасць вывучаць сапраўдную беларускую гісторыю і выхоўвацца на сапраўдных беларускіх героях», — заявіў Губарэвіч.

# За ІП і супраць карупцыі

**Лідары правацэнтрысцкай кааліцыі – Юрась Губарэвіч ад Руху «За Свабоду», Віталь Рымашэўскі з БХД і Анатоль Лябедзька з АГП - зладзілі серыю паездак па Мінскай вобласці, звяртаючы ўвагу мясцовых уладаў на праблемныя кропкі. У прыватнасці, на карупцыю і перашкоды прадпрымальнікам, з якімі палітыкі шчыльна пакамунікавалі на рынках.**




У прыватнасці, 15 студзеня яны правялі ў Жодзіне пікет салідарнасці з прадпрымальнікамі і падалі зварот у гарвыканкам з прапановай правесці круглы стол па праблемах карупцыі.

Трымаючы шыльды «Я – ІП», палітыкі выйшлі ў цэнтр горада і тлумачылі людзям, што стаіць за канфліктам паміж індывідуальнымі прадпрымальнікамі і беларускім урадам. Потым наведалі рынак.

«Працуе літаральна тры кропкі, – распавёў сайту ucpb.org лідэр АГП Анатоль Лябедзька. – Паразмаўлялі з тымі, хто выйшаў на працу. Ва ўсіх настрой вельмі дрэнны. Звярнуліся да адміністрацыі рынку. Адметна, што звычайна яна не ідзе на кантакты з палітычнай апазіцыяй, але гэтым разам абменьваліся з намі думкамі вельмі актыўна. Гаварылі, што гэтая праблема датычыць не толькі ІП, але і пакупнікоў, і адміністрацыі рынку. Усе будуць толькі губляць, калі іпэшнікі закрыюцца. І калі мы казалі, што можа сысці 30 адсоткаў іпэшнікаў, то, па іх меркаванні, гэта закране 70 адсоткаў ІП».

«Рэпрэсіі супраць індывідуальных прадпрымальнікаў перад усім адаб'юцца на самых збяднелых слаях насельніцтва, бо звычайна нешта набываюць на рынках людзі не з самым высокім прыбыткам, – лічыць сустаршыня БХД Віталь Рымашэўскі. – Апрача таго праца ІП вельмі важная для малых гарадоў, бо папаўняе мясцовы бюджэт. Такім чынам рэпрэсіўныя захады ўладаў адаб'юцца не толькі на простых беларусах, але і на беларускай эканоміцы ў цэлым. Бюджэты малых гарадоў недалічацца прыбыткаў. І тое, што мы сёння бачым на рынку – 95 адсоткаў зачыненых шапікаў – пераканаўчае сведчанне бяздарнай палітыкі беларускіх уладаў, якія нясуць нашым рэгіёнам згубу».



Па меркаванні першага намесніка старшыні руху «За Свабоду» Юрася Губарэвіча, закрыццё рынкаў і пазбаўленне працы прыватных прадпрымальнікаў можна разглядаць як трагедыю для малых гарадоў.



«Шмат хто працуе на рынках сем'ямі, – кажа Юрась Губарэвіч. – Такім чынам цэлыя сем'і будуць пазбаўленыя крыніцы прыбытку. Гэта адаб'ецца і на павышэнні беспрацоў'я. Прадпрымальнікам фактычна няма куды дзецца. Прадпрыемствы Жодзіна не здольныя прыняць іх на працу і забяспечыць высокі ўзровень заробкаў. Больш за палову працаўнікоў сядзіць на акладах у 2 млн. рублёў. Гэтага, натуральна, недастаткова, каб пракарміць сем'і. На маю думку, рашэнне ўладаў выкінуць дзесяткі тысяч людзей на вуліцу ва ўмовах эканамічнага крызісу абсалютна памылковае».

Мясцовым уладам таксама была перададзеная Антыкарупцыйная платформа, распрацаваная 11 палітычнымі ды грамадскімі арганізацыямі Беларусі, сярод якіх правацэнтрысцкія АГП, БХД і Рух «За Свабоду».

«У размове з жыхарамі горада мы даведаліся шмат фактаў, якія сведчаць аб карупцыі і крадзяжах на дзяржаўных прадпрыемствах, – паведаміў намеснік старшыні руху «За Свабоду» Юрась Губарэвіч. – Усе гэтыя факты трэба выносіць на грамадскае абмеркаванне. Калі праваахоўныя органы і мясцовыя ўлады не знаходзяць сілаў, каб змагацца з карупцыйнымі праявамі, павінен быць арганізаваны ціск з боку грамадства, бо падобныя з'явы б'юць па кашальку кожнага грамадзяніна Беларусі».

«Адзін з галоўных падмуркаў сістэмнай карупцыі – гэта стан, калі ўлада не кантралюецца народам праз свабодныя сумленныя і справядлівыя выбары, – адзначыў сустаршыня БХД Віталь Рымашэўскі. – І пакуль кіраўнікоў у гарадскія арганізацыі будуць адміністрацыйным чынам прызначаць з Менску, а не абіраць народ, да тых часоў карупцыя будзе невыкараняльнай у рэгіёнах. Гэта мусіць ведаць кожны, у тым ліку кіраўнік выканкаму. І калі б круглы стол адбыўся, гэта хацелася б давесці да ўсіх жыхароў горада і чыноўнікаў».

«Мы працягнем такія паездкі ў рэгіёны, каб ахапіць як мага большую колькасць людзей, а таксама прапанаваць уладам вызначыцца, які праблемы ў Беларусі мы маглі б вырашаць супольна, – падвёў вынік старшыня АГП Анатоль Лябедзька. – Правацэнтрысты фактычна ўжо маюць парадак дня для размовы з грамадзянамі і ўладай. Ён уключае такія накірункі, як супрацьдзеянне размяшчэнню ваенных расейскіх баз у Беларусі, супрацьдзеянне карупцыі, а таксама пытанне змены эканамічнай мадэлі і недапушчэння такіх канкрэтных праяў, як тое, што адбываецца сёння з ІП».

У другой палове студзеня Губарэвіч, Рымашэўскі і Лябедзька зладзілі падобныя паездкі таксама ў Дзяржынск, Маладзечна і Смалявічы.









# Мілінкевіч: Трэба хадзіць на выбары

(працяг да стар. 1)

**- У выбарах вы ўдзельнічалі адзін раз — прэзідэнцкіх 2006 года. Але з таго часу прайшла не адна выбарчая кампанія. Узнікае пытанне — ці не выпадковы чалавек вы ў палітыцы?**

- Не думаю, што мяне можна назваць выпадковым. Ужо ў час перабудовы я быў актыўны і мы ў Гродне стварылі адну з першых незалежных арганізацый «Паходня» пад кіраўніцтвам Міхася Ткачова. Удзельнічаў у Гродне два разу ў парламенцкіх выбарах, у 2001 годзе быў кіраўніком выбарчага штабу кандыдата ў прэзідэнты Сямёна Домаша. Дарэчы, да гэтага часу лічу, што гэта быў найлепшы кандыдат ад апазіцыі за ўсе часы — не толькі простыя людзі, але і ва ўладзе яго шмат хто падтрымліваў.

**- Але пра пасля 2006 года патлумачце. А то ўзнікаюць думкі, што Гродна — гэта ваш узровень...**

- Я лічу, што кампанія 2006 года атрымалася. У чым, калі не было перамогі? Ведаеце, падчас кампаніі і пасля яе быў выдатны настрой, была энергетыка. Пра гэта скажуць усе, хто браў удзел у пратэстах на Плошчы. Была вера ў тое, што мы баронім сваю годнасць — страх быў велізарны перад Плошчай, але людзі выйшлі. Вы мне цяпер кажаце — а чаму Мілінкевіч наступныя два разы на выбары не хадзіў...

**- Гэта вы кажаце, што на выбары палітыкі павінныя ісці, пра паказаць альтэрнатыву казалі, пра паказаць іншы шлях...**

- Мы павінныя праяўляць




адказнасць. І калі мы ходзім на выбары «ў растапырку», нейкімі там калонамі — ніводзін аргумент мяне не пераканае, што трэба на выбарах нейкія свае сацыяльныя групы браць. У нас адна сацыяльная група — «пратэстныя», якія хочуць еўрапейскага жыцця. Але калі мы калонамі ходзім, то людзі расчароўваюцца: «Ізноў апазіцыя не здолела аб'яднацца! Прыйдуць да ўлады і не будзе з іх толку!» І я лічу: калі не аб'ядналіся — не варта ісці.

Падчас леташняй кампаніі я да апошняга разважаў: можа, варта пайсці? І не пайшоў, таму што, не аб'яднаўшыся, мы выглядаем слабымі. І сёння бачна, што кампаніі і 2010, і 2015 не дадалі аптымізму. Не так важна, колькі арыштавалі, колькі пабілі — кампаніі не дадалі веры, што гэта правільны шлях. Мы спрыяем, калі ходзім «у растапырку», павелічэнню песімізму ў грамадстве.

**- Ці не вам, адзінаму «адзінаму кандыдату» за ўсю гісторыю апазіцыі, трэба было і зараз тую апазіцыю аб'ядноўваць, а не чакаць, пакуль яна самааб'яднаецца?**

- І спрабаваў! Сядзеў месяцамі перад 2015 годам. Паўгода спрабавалі — усім надакучыла, усіх дастала. Кажуць: гэта ж так проста — правялі Кангрэс, выбралі дэмакратычна і ўсё. Не змаглі!

**- Чаму? Я чуў версію, што адна вядомая ў апазіцыі асоба на апошнім этапе ўсіх перасварыла.**

- Не пагаджуся. Нельга казаць, што вінаваты нехта адзін, — адказнасць нясуць усе, і я ў тым ліку. Можна, канечне, расказваць, што я — менш, а яны — больш, але не цікава гэта нікому! Усе адказныя.

**- Асабіста ваша адказнасць у чым?**

- Можа, замала размаўляў з тымі, хто вырашаў — з лідарамі. Трэба персанальна раз-




маўляць і сам-насам. Недахоп камунікацыі быў, і я думаю, што мы сядзелі за сталом, дзе не ўсе да канца шчыра кажуць. Так бывае... Ну і трэба шукаць прыхільнікаў.

Бо там жа раскладка такая: адны за адну схему, другія — за другую. Тут усе былі за Кангрэс, але не маглі вырашаць, як на той Кангрэс абіраць дэлегатаў. Бо хто мае большасць дэлегатаў, той і выйграе. І кожны думаў пра сябе — эгаістычнае на першым месцы.

**- Можа, такую апазіцыю, дакладней яе лідараў, варта было б адправіць у адстаўку? Тым больш што ў лідарах яны найчасцей ужо вельмі шмат гадоў.**

- Тут кожная арганізацыя павінная сама вырашаць. Розныя сітуацыі бываюць. Проста змены праз тое, што ў некага ў пашпарце запісаны пазнейшы год, не варта праводзіць. Не, калі лідар распіхвае маладых і не дае ім падысці да кіравання, баючыся канкурэнцыі, — гэта кепска. Амаладжэнне патрэбнае, але маладых трэба рыхтаваць. Гэта працэс не хуткі, і ўсё мусіць адбывацца паступова. А не проста чалавека выкрасліць і выкінуць на сметнік.

**- Чаму на сметнік? Вось вы думаеце, я так разумею, пра выхад на палітычную пенсію, таму прэтэндавалі на пасаду рэктара ЕГУ. Дарэчы, а вы ўпэўненыя, што за столькі гадоў у палітыцы не страцілі кваліфікацыю як навуковец і выкладчык?**

- У пэўным сэнсе страціў. Хаця, кантакт з аўдыторыяй у мяне быў і ёсць выдатны. Ці ёсць у галаве веды? Пэўныя рэчы з таго, што я выкладаў у фізіцы, я падзабыў. Але мазгі ў мяне працуюць добра, і веды б я аднавіў. Канечне, я страціў форму як навуковец... Але ўніверсітэт — гэта таксама палітыка. Палітыка культурніцкая і адукацыйная перш за ўсё.

**- На якую б пасаду вы пагадзіліся, калі б раптам такая прапанова прыйшла з самага верху?**

- Я гатовы служыць на любой пасадзе, мне гэта цікава — праца ва ўладзе дае магчымасці. І для мяне гэта найперш адказнасць, а не асалода. На пасады выканаўчыя — міністры, мэры і гэтак далей — можна ісці, але толькі тады, калі ў нас будуць вольныя выбары. Калі гэтыя людзі будуць абірацца дэмакратычна абраным парламентам — так міністры звычайна абіраюцца.

А ісці туды, дзе ні на што не ўплываеш і толькі чакаеш каманды, не варта. А ў парламент, нават недэмакратычны, трэба трапляць. Пры ўмове, што цябе сапраўды абралі, а не прызначылі.

Вашы прагнозы на парламенцкую кампанію 2016 года?

- Я не ведаю, ці будуць у новым парламенце апазіцыянеры, калі вы пра гэта. Усё будзе залежаць ад стану эканомікі: чым горшы стан эканомікі — тым больш шанцаў, што яны там з'явяцца.

З'яўленне апазіцыі ў парламенце — сімвал таго, што ідуць перамены. І тады лягчэй атрымліваць фінансавую падтрымку. А я за гэтую падтрымку. Нам нельга абваліць эканоміку — бо скарыстаецца ўсходні сусед. Таму калі зараз апазіцыянеры ў парламент трапяць, я нікога асуджаць не буду. Але апазіцыя павінная лічыць галасы асабліва ўважліва там, дзе ідуць апазіцыянеры.



# Гавел-сімвал

**У мінскім Палацы мастацтваў адбылася традыцыйная студзеньская вечарына памяці экс-прэзідэнта Чэхіі, драматурга, публіцыста і праваабаронцы Вацлава Гавела. Імпрэзу зладзілі Рух «За Свабоду», праваабарончы цэнтр «Вясна» пры падтрымцы амбасады Чэхіі.**

Вечарыну вёў старшыня Руху «За Свабоду» Аляксандр Мілінкевіч. Ён падзякаваў прысутным гасцям за ўдзел і нагадаў пра ролю Вацлава Гавала ў дэмакратычных зменах у Еўропе, пра ягоную салідарнасць зь Беларуссю.

Ён адзначыў, што Гавал казаў: «Не будзе Беларусь незалежнай, вольнай і дэмакратычнай без Еўропы. А Еўропа не будзе поўнай без Беларусі».

«Гавел прысутнічае часта ў нашых думках, у параўнаннях сябе з ім, з яго каштоўнасцямі, з яго паводзінамі. Калі былі сходы палітычныя, вельмі часта паўставала пытанне: палітыка - брудная справа, вы папрыходзіце, дэмакраты, і нічога лепшага ніколі не будзе. І я казаў ім: „А па-вашаму Гавел таксама — брудная справа?“ Але зала заціхала, ні разу ніхто не сказаў, што ён таксама», — прыгадаў Мілінкевіч.







Амбасадар Чэхіі ў Беларусі Мілан Экерт расказаў пра найбольш важныя старонкі біяграфіі і дзейнасьці Вацлава Гаўла, а таксама падзяліўся ўражаннямі ад супольнай працы з першым чэшскім прэзыдэнтам. «Я вельмі ганаруся, што гэта сімвал, які вядомы ва ўсім свеце», — заключыў ён.

Адбылася прэзэнтацыя пасмяротнай кнігі беларускага палітолага Віталя Сіліцкага «Доўгая дарога ад дыктатуры».

Яе ўкладальнік, намеснік старшыні Руху «За Свабоду» Алесь Лагвінец нагадаў, што першы наклад кнігі быў знішчаны на загад Міністэрства інфармацыі.

За гэта чыноўнікі заслужылі антыпрэмію Асамблеі няўрадавых арганізацыяў і гарбуз. «Віталь лічыў, што прасторы свабоды трэба ўвесь час пашыраць і заставацца аптымістам», — адзначыў Лагвінец.



Газета выдаецца Рухам «За Свабоду». Наклад 299 ас. Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі бясплатна.
Падпісана ў друк 02.02.2016 г. Кантакты рэдакцыі: тэлефон +375 17 2808863, е-пошта info@pyx.by